# КРЫВІНКА

ВЕРАСЕНЬ
№ 14 (168)
2015 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА



КАМПАНІЯ - 2015

## ВУЧОБА "НАЗІРАЛЬНІКАЎ"

**У чацвер 17-га верасня ў Бешанковічах адбылася вучоба праўладных "назіральнікаў" на прэзідэнцкіх выбарах. Вучобу праводзіў намеснік старшыні райвыканкама Мікалай Заблоцкі.**

Назіральнікаў пачалі рыхтаваць па ўсёй краіне з мэтай праціўзеяння сапраўдным назіральнікам.

У нашым раёне да гэтай мэты сярод іншых прыцягнулі некалькі дзясяткаў настаўнікаў, якіх на гэты дзень вызвалілі ад працы ў школах. Большасць з іх была вылучана назіральнікамі ад БРСМ ці "Белай Русі".

На сустрэчы ў райвыканкаме з гэтымі "назіральнікамі" быў праведзены падрабязны інструктаж, як яны мусяць бараніць "справядлівыя выбары".

Выбарчыя камісіі ў нашым раёне сфармаваны так, што трапіць туды чалавеку, які крытыкуе ўладу – немагчыма. Зразумела, што такія камісіі будуць чыніць самавольства, каб толькі даказаць усяму свету, што выбары праводзяцца "чэсныя", а кандыдат ад улады набраў дакладна 76% галасоў, пра якія ўжо загадзя аб'яўлена.

А на незалежных назіральнікаў, якія маглі б зафіксаваць парушэнні выбарчага заканадаўства, будуць натраўлены назіральнікі праўладныя.

Ім нават раздалі "Узор Акту аб парушэнні Выбарчага кодэкса незалежнымі назіральнікамі", у якім загадзя ўпісана скарга на незалежнага назіральніка за тое, што ён "часта падыходзіў да стала выдачы бюлетэняў" і перашкаджаў працы камісіі.

**А.Тутэйшы**

НАША ЖЫЦЦЁ

## ВЫСОКІ ВІЗІТОВЕЦ

**Знаёмства з рэалізацыяй праектаў у галіне энергазберажэння на Віцебшчыне стала асноўнай мэтай нядаўняй рабочай паездкі ў рэгіён кіраўніка Прадстаўніцтва Сусветнага банка ў Рэспубліцы Беларусь Яна Чул Кіма.**

Міжнародны чыноўнік разам са спецыялістамі Прадстаўніцтва пабываў на Бешанковіцкім ТАА НВП «Белкатламаш», які спецыялізуецца на выпуску кацельнага абсталявання, а таксама праявіў цікавасць да працы кацельнай гаспадаркі прадпрыемстваў ЖКГ, якія працуюць на драўняным паліве.

У ходзе наведвання «Белкатламаша» эксперты СБ адзначылі, што Бешанковіцкая кампанія вядомая сфарміраванай высокай культурай вытворчасці і эфектыўна збудаваным тэхналагічным працэсам, а таксама сучасным металаапрацоўчым абсталяваннем.

Акрамя таго, дэлегацыя Прадстаўніцтва СБ пазнаёмілася са спецыфікай працы Ульскага сельскагаспадарчага ліцэя ім. Даватара, дзе за кошт пазык Сусветнага банка ў 2010 годзе была пабудавана кацельня з механізаванай падачай паліва (дранка) замест той, якая працавала на мазуце і пячным бытавым паліве.

**Віцебскія Весці**

### * * *

*Ты мне на дзень народзінаў*
*нічога не дары:*
*дажджу пазыч у восені –*
*хіба ж гэта замнога?*
*Каб мы ад вечаровае*
*да ранішняй зары*
*схаваліся пад ліпаю*
*ад шчасця праліўнога.*

*Напояў моцных не купляй –*
*не хочацца віна.*
*Мне хопіць пацалункаў,*
*каб быць хмельным невылечна.*
*А загадаеш – лужыны*
*я асушу да дна,*
*і гэты дзень народзінаў*
*запомню я навечна.*

*Ты толькі сваю ўсмешку*
*не хавай і бляск вачэй.*
*Я сёння ўсё скажу табе,*
*што сэрца нарадзіла.*
*А дождж міне, і з неба зоркі*
*зваляцца яшчэ,*
*вось толькі пацалункаў каб*
*на гэту ноч хапіла!*

***Г.Станкевіч***



НАВІНЫ ПРАКУРАТУРЫ

## ЗААРАЛІ САД

**З былога кіраўніка "АграВітВіна" Круціліна Д.У., яго намесніка і аграномаў спагнана 27, 6 млн рублёў.**

У выніку планавай праверкі ПУП «АграВітВін» Бешанковіцкага раёна, праведзенай Камітэтам дзяржаўнага кантролю Віцебскай вобласці, ўстаноўлена, што вясной 2014-га года ў гаспадарцы быў заараны жывы сад.

Паводле дамовы пастаўкі ў маі 2012 года гаспадаркай у РУП «Гомельская абласная сельскагаспадарчая доследная станцыя» за кошт рэспубліканскага бюджэту былі набыты клоновыя прышчэпы яблыні 9900 шт. на суму 30.390.000 руб.

Набытыя клоновыя прышчэпы яблыні, былі высаджаны ў маі 2012 года на ўчастку каля вёскі Быстры на плошчы 1,6 га. Згодна з праектам ў гаспадарцы было неабходна закласці сад плошчай 200 га. У мэтах эканоміі сродкаў было вырашана набыць клоновыя прышчэпы і з іх вырасціць саджанцы для саду. Але рэалізаваць задуманае не атрымалася.

Гаспадарка пры вырошчванні прышчэпаў яблыні груба парушыла патрабаванні галіновага рэгламенту «Вырошчванне пасадкавага матэрыялу пладовых культур», зацверджанага першым намеснікам Міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Рэспублікі Беларусь ад 29.10.2009. Затраты па вырошчванню клоновых прышчэпаў яблыні ў 2013 годзе па дадзеных бухгалтарскага ўліку адсутнічаюць, такім чынам іхні догляд не праводзяўся.

Створанай у гаспадарцы 20.04.2014 камісіяй праведзена абследаванне пасадак прышчэпаў яблыні на плошчы 1,6 га. Пры абследаванні пасадак клоновых прышчэпаў было ўстаноўлена, што гадавальнік не быў агароджаны, у шэрагах на адлегласці 30-40 метраў саджанцы усохлі, як надземная частка, так і каранёвая сістэма. Камісія прыйшла да высновы, што ў выніку дрэнных умоў надвор'я (моцных маразоў, адсутнасці снегу) адбылася гібель прышчэпаў яблыні на плошчы 1,4 га - 87% і рашыла, што прышчэпы яблыні на плошчы 1,6 га падлягаюць спісанню. Акт зацвердзіў дырэктар гаспадаркі Круцілін Д.У. У камісію па абследванню пасадак прышчэпаў яблыні не былі ўключаныя спецыялісты райсельгасхарча і РУП «Гомельская абласная сельскагаспадарчая доследная станцыя» для вызначэння прычыны гібелі прышчэпаў. Вясной 2014 года сад быў пераараны і засеяны збожжавымі культурамі.

Гібель раслін адбылася з зімы 2013 года. Загінула частка раслін. Камісія была створана ў складзе галоўнага агранома гаспадаркі Махначовай А.М., агранома гаспадаркі Мядзюшка А.А., узначаліў камісію намеснік дырэктара гаспадаркі па вытворчасці Дамарацкі В.У. Камісія склала Акт аб гібелі раслін, на падставе якога было праведзена пераворванне ўчастка, на якім былі высаджаны клоны. Гібель клонаў мог вызначыць любы спецыяліст, хто ўваходзіў у гэтую камісію, а вось даць заключэнне аб прычынах гібелі мог толькі спецыяліст у гэтай сферы дзейнасці.

Клон прышчэпы не звычайныя расліны, а расліны, якія маюць сваю спецыфіку, якая заключаецца ў тым, што для выкарыстання бярэцца пупышка, такім чынам, можа загінуць частка парастка, а астатняя частка можа прынесці карысць. І як гэта адзначана ў судовым пасяджэнні, камісіяй быў спісаны, а затым знішчаны жывы пасадачны матэрыял, які можна было часткова выкарыстоўваць у вытворчасць саджанцаў.

Згодна з п.1 ст.933 ГК Рэспублікі Беларусь шкода, нанесеная маёмасці юрыдычнай асобы, падлягае кампенсацыі ў поўным аб'ёме асобай, якая нанесла шкоду. Законам можа быць ускладзена абавязанасць кампенсацыі шкоды на асобу, якая не наносіла шкоды.

Прычыненая ПУП «АграВітВін» шкода 27.600.000 спагнана судом у долевым парадку з наступных адказчыкаў: дырэктара гаспадаркі Круціліна Д.У., галоўнага агранома Махначовай А.М., агранома Мядзюшка А.А., намесніка дырэктара гаспадаркі па вытворчасці Дамарацкага В.У. па іскавай заяве пракурора раёна.

**Эльвіра Ляшонак**
**намеснік пракурора**

НАША ЖЫЦЦЁ

## ПІЛОТНЫ ПРАЕКТ

**Такія праекты будуць рэалізаванынапрынцыпахдзяржаўна-прыватнага партнёрства.**

Гаворкаідзеабпрыцягненніпрыватнага капіталу ў развіццё інфраструктуры краіны. Беларусь ужо атрымала пацверджанне ад міжнародных фінансавых інстытутаў у падтрымцы абраным праектам. У першую групу трапілі рэканструкцыя аўтамабільнай дарогі М10 і будаўніцтва Бешанковіцкай гідраэлектрастанцыі.

Аляксандр Забароўскі, першы намеснік міністра эканомікі:

"Гэта пытанні дарог, дзіцячых садоў, праекты ў жыллёва-камунальнай гаспадарцы, ачышчальныя збудаванні ў тых гарадах, дзе яны сёння найбольш неабходныя. Наступны пакет - гэта 100 самых неабходных праектаў, якія адабралі дзяржорганы, адабралі рэгіёны агульным аб'ёмам каля 3 млрд даляраў, яны ідуць за пілотнымі праектамі. І, вядома, нацыянальны інфраструктурны план будзе абнаўляцца, ён будзе ўбудаваны ў сістэму дзяржаўнага планавання і прагназавання, якая ў нас існуе, каб тыя дзяржпраграмы, якія мы распрацоўваем на наступную пяцігодку, ўключалі магутны інфраструктурны раздзел ".

Плануецца, што да канца года ў Беларусі будзе прыняты закон аб дзяржаўна-прыватным партнёрстве. Дакумент акрэсліць выразныя правілы ўзаемадзеяння дзяржавы і прыватнага інвестара на ўсіх этапах рэканструкцыі альбо будаўніцтва таго ці іншага аб'екта.

**БТ**

РЫНАК ПРАЦЫ

# ВАКАНСІІ Ў ВЕРАСНІ

**Абнавіўся спіс вакансій на сайце Міністэрства працы і сацыяльнай абароны. Цяпер тут прапануюць 20 вакансій на 27 вольных месц.**

Па-ранейшамубешанковіцкае РСТ (райпо) не можа знайсці электрамеханіка (3 млн), чатырох прадавачак (па 3 млн), электраманцёра па рамонту і абслугоўванню электраабсталявання (2, 2 млн), трох нарыхтоўшчыкаў прадуктаў і сыравіны ў Вуле, Вярхоўі і Астроўне з заробкам па 3,0 млн. Да іх дадаліся вакансіі буфетчыка (2,3 млн) і агента па закупках (2,5 млн). Даведкі па тэлефоне 8-0212-4-18-46.

ААТ "Бешанковічы аграсервіс" па-ранейшаму патарбуюцца: заатэхнік з вышэйшай адукацыяй (3,5 млн), тры аператары машыннага даення (па 3,0), і ветурач з вышэйшай адукацыяй (3,5 млн). У верасні да гэтых вакансій дадаўся трактарыст з заробкам 3 млн.

Даведкі па тэлефоне 8-02131-4-18-36.

Бешанковіцкай раённай ветстанцыі патрабуецца ветурач-эпізаатолаг з вышэйшай адукацыяй з заробкам 4 млн. Раней яму ўказваўся заробак 3,5 млн. Даведкі па тэлефоне т. 8-02131-4-30-67.

ТАА "Белкатламаш" патрабуецца кладаўшчык з вышэйшай адукацыяй і заробкам 3 млн. Даведкі па тэлефоне 8-02131-4-27-61.

Бешанковіцкаму РАНС па-ранейшаму патарбуецца інспертар групы прапаганды і ўзаемадзеяння з грамадскасцю, адукацыя вышэйшая, заробак 5 млн. У верасні да яго дадаўся вадзіцель катэгоры "С" са стажам больш 1,5 года і заробкам 4,1 млн. Даведкі па тэлефоне 8-02131-4-25-89.

У вакансіях Бешанковіцкага ДРБП-110 да кіроўца пагрузчыка з заробкам 2,7 млн і машыніста укладчыка асфальтабетону з заробкам 2,8 млн у верасні дадаўся галоўны інжынер з вышэйшай адукацыяй і заробкам 3,5 млн.

Даведкі па тэлефоне 8-02131-4-26-76.

У "Бешанковіцкага камунальніка" засталіся вакансіі вальшчыка леса з заробкам 2,3 млн, штукатура – 2,2 млн, токара – 2,5 млн.

**М.Васільеў**

ЗДАРЭННІ

# ЗАБЛУДЗІЛАСЯ НА ДВА ДНІ

**У Бешанковіцкім раёне знайшлі 67-гадовую пенсіянерку, якая заблудзілася ў лесе.**

Першымі трывогу аб зніклай забілі аднавяскоўцы. У маленькай вёсачцы, у якой кожны ведае адзін аднаго ў твар, доўгая адсутнасць аднаго з мясцовых жыхароў без увагі не застаецца. Патэлефанавалі сыну пенсіянеркі, той адразу ж прыйшоў па дапамогу ў міліцыю.

Неадкладна на пошукі адправіліся супрацоўнікі вышуку. Ужо ў вёсцы яны высветлілі, што жанчына сышла за дарамі лесу яшчэ напярэдадні, з тых часоў аб ёй нічога не вядома. У самыя кароткія тэрміны міліцыянты разам з ратавальнікамі і мясцовымі жыхарамі арганізавалі пошук.

Зрэшты, знайсці чалавека ў велізарным лесе, ды яшчэ і на перасечанай мясцовасці аказалася не так проста. Тым больш, што як на злосць ў гэты дзень неба шчыльна зацягнула аблокамі, а таму нават аб элементарным арыентаванні па сонцы не магло ісці і гаворкі. А пад вечар і зусім пайшоў праліўны дождж, які яшчэ больш абцяжарыў пошукі. У выніку шанцы на шчаслівы фінал раставалі як першы снег на далоні.

Выбавіла ж бабулю міліцэйская кемлівасць і знаходлівасць. Старшы оперупаўнаважаны вышуковай групы Бешанковіцкага РАУС Алег Мадурскі выраšыў стэлефанавацца клубам ДТСААФ, курсантам якога ён некалі быў. У выніку дапамога ў прамым сэнсе прыйшла з нябёсаў.

Выявіўшы жанчыну, пілоты аператыўна паведамілі міліцыянтам аб тым, дзе яна знаходзіцца. Ужо ў патрульнай машыне пенсіянерка расказала, што, нягледзячы на перажытае, адчувае сябе добра і не мае патрэбу ў медыцынскай дапамозе. Бо ўвесь час пакуль яна была ў лесе - рабіла зарадку, каб не змерзнуць, голад жа перамагала пры дапамозе лясных дароў. А яшчэ жанчына падзякавала ўсім, хто дапамог шчасліва завяршыцца гэтай гісторыі.

**uvd.vitebsk**

КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА

# У НЕПРАЦУЮЧАГА ЗНОЙДЗЕНЫ АРСЕНАЛ

**Бешанковіцкім раённым аддзелам СК узбуджана крымінальная справа па ч.2 арт.295 Крымінальнага Кодэксу Рэспублікі Беларусь у адносінах непрацуючага жыхара вёскі Сіняны.**

26-га чэрвеня супрацоўнікамі ўпраўлення МУС у яго знойдзеныя і канфіскаваныя вінтоўка Мосіна 7,62 мм, 648 патронаў рознага калібру, 4 самаробных выбуховых прыстасаванні і 2 электрадэтанатары.

**mvd.gov.by**

АДУКАЦЫЯ

# ЧАМУ ПУШКІН, А НЕ ГАМЕР?

**Усе кажуць пра нацыянальную самасвядомасць беларусаў: маўляў, трэба яе тэрмінова фармаваць, без яе народ не народ і краіна не краіна. На чым яе будаваць — пакуль да канца не ясна, ды і ўсе гэтыя размовы пра новую самасвядомасць — як спробы пабудаваць новы дом на старым падмурку. Праселым, гнілым падмурку. І добра б беларусам ад СССР засталіся хваленая дружба народаў і моцная, дзёрзкая навука — але ж не, засталіся груваcтая бюракратыя і страх нешта мяняць. А самае страшнае — засталося пакланенне перад цэнтрам, гэта значыць, перад Масквой.**

Тое, што Масква ў сямістах кіламетрах на паўночны ўсход ад Мінска — гэта яшчэ не бяда. Тое, што Масква ў кожным тэлевізары беларусаў — праблема, але не катастрофа. Катастрофа ў тым, што Масква ў большасці з нас у галаве.

Па-мойму, трэба не выпраўляць, а вучыць беларусаў жыць без Масквы з самага дзяцінства. Так вучыць, каб Масква была ўсяго толькі сталіцай суседняй дзяржавы, вялікім горадам у сямістах кіламетрах на паўночны ўсход ад Мінска. Так, каб любому замежніку, які думае, што Беларусь — гэта нейкая вобласць у Расіі, мы маглі канкрэтна расказаць, чым мы адрозніваемся ад вялікага суседа. Так, каб беларусы ўспрымалі рускую культуру не як сваю, а як суседскую, з якой у нас ёсць сувязь.

Калі я цвёрда вырашыў выгнаць Маскву са сваёй галавы, то задаўся пытаннем: а чаму ў беларускіх школах выкладаюць рускую літаратуру? Важкіх прычын я не адшукаў.

Чым мне не дагадзіла руская літаратура?

Ды ўсім дагадзіла, на самай справе. Яна разнастайная, цікавая, гуманістычная — добрая. Я проста не разумею, чым руская літаратура так выключная, што ёй трэба прысвячаць асобны курс у беларускіх школах. Па-першае, дрэнны сам гэты курс. Я падрабязна вывучыў школьную праграму па «русліту» з 5 па 11 клас: там пішуць пра асаблівую ролю рускай літаратуры ў фарміраванні духоўнага свету, пра пятроўскія пераўтварэнні, пра ўплыў рэвалюцый на думкі рускай інтэлігенцыі. А па-другое, там ні слова не пішуць пра тое, якое дачыненне руская інтэлігенцыя разам з Пятром маюць да беларусаў.

Вы скажаце: ну як жа, у нас жа агульная гісторыя! У рускай літаратуры пішуць і аб нашым мінулым! Праўда, аб нашай? Пётр І кіраваў Расіяй з 1682 па 1721. Цяперашняя Беларусь у той час знаходзілася ў складзе Рэчы Паспалітай, але польскую літаратуру ў нашых школах чамусьці не выкладаюць. Затое там, у школах, дзеці чытаюць пра Сцяпана Разіна, пра Ермака і пра Уладзіміра Манамаха — таго самага, які ваяваў супраць Усяслава Полацкага. Там, на ўроках рускай літаратуры, маладым беларусам распавядаюць пра «загадкавую рускую душу» і «цяжкія рускія думы». Беларускія душы таксама вельмі загадкавыя, ды і думы нялёгкія, але пра іх там няма ні слова.

Вы скажаце: але ж руская літаратура такая маштабная, такая значная, яе чытае ўвесь свет! Усё дакладна. А яшчэ свет чытае ангельскую, французскую, амерыканскую, нямецкую, лацінаамерыканскую, японскую і дзясяткі іншых літаратур. І ўсе яны не менш значныя. Вы скажаце: але ж руская літаратура напісана па-руску, яе разумее кожны беларус! Японскую ж мы не зразумеем!

У ідэале сусветную літаратуру можна было б чытаць і выкладаць на дзвюх мовах: добрых перакладчыкаў на беларускую мову ў нас дастаткова. А калі зусім размроіцца — на трох: пры правільным падыходзе да пятага класу школьнікі будуць цалкам у стане чытаць на англійскай.

І што рабіць: пакінуць школьнікаў без Пушкіна і Чэхава?

Вы скажаце: ну і што цяпер, узяць і выкінуць рускую літаратуру з школьных праграм? Пакінуць школьнікаў без Пушкіна, Гогаля, Чэхава і Талстога? Ды не ж, не! Проста прадмет «Руская літаратура» даўно пара замяніць на прадмет «Сусветная літаратура». Каб Гамера ў школах выкладалі не менш за Някрасава, а Шэкспіра не менш за Цютчава. Каб дзеці ўбіралі не загадкавасць рускай душы, а сусветны культурны кантэкст. Каб ўпісвалі ў гэты кантэкст сабе — не як прыдатак велізарнай Расіі, а як носьбітаў асаблівай, маленькай, але ганарлівай культуры.

Вы спытаеце: а хіба няма цяпер Гамера і Шэкспіра ў курсе рускай літаратуры? Хіба там не хапае замежных аўтараў? Ёсць. Гамеру адвялі дзве гадзіны за сем гадоў, Шэкспіру — ажно тры.

Я адмыслова падлічыў: усяго на чытанне літаратурных твораў праграма з 5 па 11 клас адводзіць 379 гадзін. Замежнай літаратуры з іх - 20,5. Акрамя вышэйзгаданых, тры гадзіны заслужыў Ганс Хрысціян Андэрсэн, два — старажытнагрэцкія міфы, тры — «Маленькі прынц» Экзюперы. Палова ўрока надалі Эзопу. У восьмым гадзіну атрымаў Эсхіл, гадзіну — фантаст Кліфард Саймак, яшчэ гадзіну на дваіх — Сервантэс і Рабле.

20,5 з 379. Крыху больш за 5% вучэбнага часу. На аднаго Пушкіна праграма адводзіць амаль удвая больш, чым на ўсю замежную літаратуру — я налічыў 38 гадзін. Гэта, дарэчы, больш, чым у праграме па беларускай літаратуры надаецца Якубу Коласу. Больш, чым Купалу і Багдановічу разам узятым. Я нічога не маю супраць Пушкіна, ён выдатны паэт і пісьменнік. Але чаму так шмат? Чаму Пушкіну ў беларускіх школах надаюць больш увагі, чым любому беларускаму пісьменніку?

Чым горшыя за Пушкіна Байран і Гюго? Чаму «Яўген Анегін» у праграме ёсць, а «Гамлета» няма?

А ведаеце, што самае смешнае? У расійскай школьнай праграме «Гамлет» ёсць. І «Фауст», і «Боская камедыя». І О'Генры, і Эдгар По. І паэзія Бадлера, Верлена і Рэмбо. І Хэмінгуэй з Сэлінджэр ёсць. А ў нас — не. У нашых школах рускую літаратуру вывучаюць самааддана, больш упарта і стабільна, чым у школах Расіі.

Але, па-мойму, гэта не самае страшнае ў сітуацыі. Самае страшнае — што мы пра гэта ўсім нават не задумваемся. А ўжо школьнікі не задумваюцца і пагатоў. Таму што ў нас — Масква ў галаве, а ў школьнікаў - добры падмурак для Масквы. Вядома, гэты момант — усяго адна дэталька з тысяч, але мне чамусьці здаецца, што дэталька важная. Пасля сямі гадоў шчыльнага кармлення духам Расіі выгнаць гэты дух з арганізма вельмі цяжка. А дзе дух Расіі — там новую беларускую самасвядомасць не пабудуеш.

**Мікалай Янкойць**

## АБ'ЯВА

*• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Крывінка» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

*• Калі прачыталі "Крывінку", то калі ласка, перадайце знаёмым.*

*• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamnikat.org/kryvinka.html каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.*

ПАЛІТЫЧНАЯ КАМПАНІЯ

# АД СЫТАСЦІ ДА АБАРОНЕНАСЦІ

**Перадвыбарная праграма галоўнага кандыдата на прэзідэнцкую пасаду — істотная заяўка на права і далей несці крыштальны сасуд. Перад намі «карціна алеем», для стварэння якой аўтарам хапіла дзвюх фарбаў — чорнай і белай.**

Пачну з размовы з жонкай перад сном:

— Якія навіны?

— Апублікаваныя вынікі апытання Інфармацыйна-аналітычнага цэнтра (ІАЦ).

— І што?

— Аказваецца, ты ўсім задаволеная.

— Ваў!

Зразумець здзіўленне маёй жонкі нескладана. Пяць гадоў таму напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў яе зарплата (настаўніцы сярэдняй школы) перавысіла 500 долараў. Сёння пры той жа нагрузцы яна не дацягвае ў эквіваленце і да 300 «зялёных». Такі вынік чацвёртай пяцігодкі для асобна ўзятай прафесійнай групы.

У лістападзе 2010 года 77,5% суайчыннікаў былі ўпэўненыя, што Беларусь пад кіраўніцтвам адзінага палітыка (АП) развіваецца ў правільным кірунку. За пяць гадоў гэты паказчык не змяніўся. Стабільнасць, аднак. Такой стабільнасць уяўляюць сацыёлагі ІАЦ, калі на яе глядзець з вокнаў кабінетаў на праспекце Пераможцаў.

Здольнасць рэага-ваць на змены навакольнага асяроддзя — фундаментальная ўласцівасць жывых арганізмаў. Але, калі меркаваць па прыведзенай сацыялогіі, сярэднестатыстычны беларус знаходзіцца ў каматозным стане (ад старажытнагрэчаскага «кома» — «глыбокі сон» — стан паміж жыццём і смерцю, які характарызуецца стратай свядомасці, рэзкім паслабленнем або адсутнасцю рэакцыі на знешнія раздражненні.

**Змена вехаў**

Працытую фрагмент з папярэдняй «Азбукі паліталогіі» («Хто вычарпаў ліміт рэвалюцый?», 11 верасня, №34): «З пэўнага моманту для кожнай аўтарытарнай дзяржавы палітычная павестка пачынае канцэнтравацца на ўтрыманні ўлады. А гэта азначае, што жыць яна пачынае пад дыктоўку надыходзячай рэвалюцыі. Прадухіленне рэвалюцыі становіцца адзіным пунктам праграмы кіруючага класа. Тут ужо не да развіцця».

Не ўпэўнены, што мяне чытаюць у Адміністрацыі АП, але актуальнасць майго выказвання там прызнаюць, што і пацвярджае перадвыбарная праграма кандыдата на пяты прэзідэнцкі тэрмін. Яна апублікаваная 17 верасня. Адкрыем яе.

Перад намі «карціна алеем», для стварэння якой аўтарам хапіла дзвюх фарбаў — чорнай і белай. Дзве фарбы сімвалізуюць два магчымыя шляхі развіцця Беларусі: «Адзін шлях наперад — да захавання стабільнасці і парадку, свабоды і незалежнасці. Гэта шлях адзінства і згоды, развіцця і прагрэсу. Гэта шлях міру і стварэння. Іншы шлях назад — да смуты і хаосу «дзевяностых», бандыцкага капіталізму і дзяльбы ўласнасці, да паслаблення дзяржавы і страты незалежнасці. Гэта шлях рэвалюцыі, крыві і вайны».

Прадухіленне рэвалюцыі — цэнтральны элемент праграмы АП. Але калі ў 2010 годзе кандыдат на чацвёрты тэрмін у якасці антырэвалюцыйнага сродку (сродку па падтрыманні стабільнасці) прапаноўваў «імклівa рухацца наперад і дасягнуць большага», то сёння на парадку дня стаіць задача «абараніць тое, што ўжо створана».

Такая дыялектыка развіцця аўтарытарнага рэжыму. Яна выразна праглядаецца ў загалоўках праграм адзінага рэальнага кандыдата на прэзідэнцкую пасаду: «Ад захавання — да памнажэння» (2010), «За будучыню незалежнай Беларусі» (2015).

Дзесяць гадоў таму кандыдат на трэці тэрмін абяцаў давесці якасць жыцця нашых грамадзян да ўзроўню, параўнальнага з заходнееўрапейскім. Пяць гадоў таму ён рэдукаваў сваё абяцанне да набліжэння ўзроўню жыцця ў Беларусі да еўрапейскага. Сёння кандыдат на пяты тэрмін цвёрда абяцае абараніць Айчыну ад любых замахаў.

Несці на працягу двух дзесяцігоддзяў крыштальны сасуд, імя якому Беларусь, — задача не самая простая. Верагоднасць спатыкнуцца рэальная, тым больш, што жадаючых падставіць падножку хапае.

Адсюль змена вехаў. Змена сацыяльнага кантракту. Падтрымліваць лаяльнасць насельніцтва за кошт росту рэальных даходаў беларуская мадэль больш не ў стане. Свой унутраны рэсурс яна цалкам вычарпала яшчэ ў пачатку «нулявых». Далейшы рост даходаў забяспечваўся за кошт датацый з боку «нашай Расіі», нафтавага афшора і крэдыту МВФ.

Новы сацыяльны кантракт прадугледжвае абмен лаяльнасці на выжыванне. Упершыню пра яго ўвядзенне АП абвясціў у сваім навагоднім звароце за некалькі хвілін да надыходу 2015 года. У праграме «За будучыню незалежнай Беларусі» новаму кантракту нададзена цэнтральнае месца.

Абмяжуюся трыма цытатамі: «Нам у Беларусі ўдаецца захаваць мір, мы не чуем стрэлаў і разрываў снарадаў, у нас ёсць магчымасць спакойна працаваць, гадаваць дзяцей і радавацца мірнаму жыццю». «Як першы прэзідэнт незалежнай Беларусі магу цвёрда абяцаць вам: наша краіна ніколі не будзе ўцягнутая ў чужыя войны і канфлікты. І мы заўсёды абаронім Айчыну ад любых замахаў». «ЗАХАВАЦЬ У КРАІНЕ МІР І ПАРАДАК — у гэтым я бачу сваю другую найважнейшую задачу».

**Усім і бескарысліва**

Любая мабілізацыйная кампанія, хто б і з якой мэтай яе ні праводзіў, вядзе да палярызацыі грамадства. У расколатым жа беларускім грамадстве эфект палярызацыі праяўляецца асабліва адчувальна. Таму мэтанакіраваныя намаганні дзяржаўнай прапаганды па мабілізацыі патэнцыйных прыхільнікаў АП аўтаматычна вядуць і да мабілізацыі яго праціўнікаў.

З эфектам палярызацыі звязаны адносны поспех апазіцыйных кандыдатаў на прэзідэнцкіх выбарах. Калі ўзровень электаральнай падтрымкі АП на выбарах адпавядае яго рэйтынгу даверу, то для апазіцыйных кандыдатаў ён, як правіла, у два разы вышэйшы (паводле дадзеных НІСЭПД).

Гэта перавышэнне забяспечваецца за кошт так званага пратэстнага галасавання. Але адна справа — згладжацца на негатыўны пабочны эфект мабілізацыі ва ўмовах ранейшага сацыяльнага кантракту («Лаяльнасць у абмен на рост даходаў») і зусім іншае — ва ўмовах цяперашняга («Лаяльнасць у абмен на выжыванне»).

У 1994 годзе Лукашэнка быў галоўным рэсурсам сваёй выбарчай кампаніі. Сёння, калі меркаваць па публічнай інфармацыйнай прасторы, ён фактычна хаваецца ад сваіх патэнцыйных выбаршчыкаў.

Роля галоўнага ньюсмейкера Беларусі ўскладзена на старшыню Цэнтрвыбаркама Лідзію Ярмошыну. У гэтую ролю яна выдатна ўжылася, і нават вялікі Станіслаўскі не змог бы вымавіць сваё сакраментальнае: «Не веру!»

Я рэгулярна праглядаю сайт самай салiднай беларускай газеты. Прывяду некалькі загалоўкаў навінавых матэрыялаў: «Ярмошына цалкам давярае выбарчым камісіям» (16.09); «Ярмошына лічыць, што ў Беларусі не варта спяшацца з пераходам на дыстанцыйнае галасаванне» (16.09); «Ярмошына: Беларусь не баіцца экзіт-полаў» (16.09); «Ярмошына: На тэледэбатах кандыдатам трэба трымацца бойка і кампетэнтна» (11.09).

З апошняга загалоўка вынікае, што інтарэсы гэтай выдатнай жанчыны не абмяжоўваюцца прафесійнай сферай. Яна прэтэндуе і на лаўры галоўнага беларускага спецыяліста ў галіне фармавання палітычнага іміджу. Прычым свае парады старшыня Цэнтрвыбаркама раздае бескарысліва, незалежна ад палітычнай арыентацыі кандыдатаў.

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**




ІНТЭГРАЦЫЯ

# ЗАЧЕМ ВЫ МОЛОКО РАЗБАВЛЯЕТЕ?

**Смех в зале среди участников форума регионов России и Беларуси, который прошел в Сочи 18 сентября, вызвал диалог Александра Лукашенко и Владимира Путина по поводу натуральности белорусского молока.**

Президент Беларуси решил заочно ответить на упреки в свой адрес со стороны президента Казахстана.

Недавно Нурсултан Назарбаев на форуме приграничного сотрудничества России и Казахстана пожаловался Путину, что Лукашенко «шпарит туда порошок этот, порошок разбавляется и продается. Это совсем не цельное молоко, это молочный напиток, он на Западе таким и считается, а продается по таким же ценам, по которым продается наше молоко».

Лукашенко, воспользовавшись случаем, с трибуны форума в Сочи попробовал дать достойный ответ своему казахстанскому коллеге, но не без помощи Путина нарвался лишь на дружный смех в зале.

«— К сожалению, у нас не всё получается в Евразийском экономическом союзе. И вы это, наверное, чувствуете. Я вот прочитал выступление нашего дорогого друга Нурсултана Абишевича по поводу его озабоченности каким-то ненатуральным молоком или еще чего-то тут… Я просто не хочу… — замялся Лукашенко.

— Он рассчитывал на вашу реакцию. И добился своего. Он своего добился, — вставил Путин.

— Во-первых, мы живем в рыночных условиях. И самый продвинутый рыночник среди нас, вы это видите и по программам, — Нурсултан Абишевич. Покупают в Казахстане молоко такое, ну туда и везут его. Не покупают — не повезли бы! Это во-первых, — продолжил Лукашенко.

Во-вторых, нет такого термина «натуральное молоко». Все прекрасно понимают, что и Россия, и Беларусь взаимно сушат это молоко, удаляют воду. И когда пик молока падает, когда его не хватает, Россия заказывает в Беларуси, мы часто покупаем в России это молоко, разбавляем его, то есть добавляя воду, и получается нормализованное молоко.

— Но это же не пиво! Зачем вы разбавляете молоко? — удивился Путин под громкий смех в зале.

— Не услышал, — вполголоса обратился Лукашенко к Путину.

— Это не пиво. Зачем вы молоко-то разбавляете, — повторил Путин под продолжающийся смех.

— Да, — несколько смутился Лукашенко, но быстро собрался. — Поэтому если рассуждаешь на какую-то тему и проблему, надо глубже в ней разбираться. А то, что он говорит о напитке каком-то молочном, так это если сок добавляешь туда. Тогда это напиток. Вот в западной Европе, кстати, это есть. И эта не имеет тема никакого отношения к тому, что у нас происходит в Евразийском экономическом союзе. У нас гораздо есть серьезнее проблемы».

**Читать полностью и смотреть видео здесь: http://naviny.by**

СТАРТ КАНДЫДАТА

# ПРА КАТЭДЖ ГАЙДУКЕВІЧА І МЭХАНІЗМ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ЗДРАДЫ

**У рэпартажы Эўрарадыё з катэджу Гайдукевіча той прызнаецца журналісту Зьмтру Лукашуку, што набыў участак з домам у 93-м годзе за 22 тыс. даляраў.**

«На маю заўвагу, што 22 тысячы даляраў у 1993 годзе былі вялізнай сумай, — піша Лукашук, — спакойна адказвае, што «ў тыя часы адзін шапік прыносіў за дзень тысячы тры прыбытку, ня тое што цяпер, таму не такая гэта і вялікая сума».

І сапраўды — 22 тысячы даляраў у 1993 годзе не былі ні вялікай, ні нават вялізнай сумай. У той час яны былі сумай калясальнай.

Калі я падзяліўся сваімі сумненьнямі ў фэйсбуку, атрымаў камэнтар: «Поўнасцю з вамі згодны, бо ў мяне быў заробак 23 $ й працаваў я на „Інтэграле" інжынэрам, а заробкі там былі не на апошнім месцы й сума ў 22 000 $ выглядала касьмічнаю».

У лістападзе 1992-га ў знак пратэсту супраць забароны Вярхоўным Саветам ініцыяванага БНФ рэфэрэндуму аб датэрміновых выбарах я сышоў з пасады сакратара парлямэнцкай камісіі па СМІ і правах чалавека (першая добраахвотная палітычная адстаўка ў новай Беларусі). На той момант мая зарплата была аж 40 даляраў. Пасада сакратара камісіі па зарплаце прыраўноўвалася да міністэрскай, такім чынам, у міністра былі тыя ж 40 даляраў. Потым заробак крыху паднялі, але не нашмат — у тым жа 1993 старшыня ВС Шушкевіч атрымліваў у эквіваленце 80 даляраў, старшыня Саўміну Кебіч — афіцыйна — крыху меней.

У 1993 годзе Гайдукевіч працаваў в.а начальніка Упраўленьня пры Савеце Міністраў па сацыяльнай абароне вайскоўцаў, асобаў шараговага і кіроўнага складу органаў унутраных спраў, вайскоўцаў-інтэрнацыяналістаў, звольненых у запас у (адстаўку) і членаў іх сем'яў. Пасада прыраўноўвалася, у лепшым выпадку, да намесьніка міністра. (У дужках заўважу, што гэта афіцыйная пасада, рэальна ж Гайдукевіч узначальваў пракебічаўскае «Народное движение Беларуси», якое было створана для супрацьстаяньня з БНФ і выступала за аб'яднаньне Беларусі і Расеі. Шматлікія выступы Гайдукевіча ў дзяржаўных СМІ вызначаліся агрэсіўным непрыманьнем Незалежнасьці, нацыянальнага Адраджэньня, беларускай мовы, дэмакратычных каштоўнасьцяў).

Натуральна, зарплата в.а. начальніка ўпраўленьня пры Савеце Міністраў ніяк не магла быць большай за заробак старшыні Савету Міністраў.

Дарэчы, ніякі шапік у 1993 годзе пры сярэднім заробку ў 20 даляраў не «прыносіў за дзень тысячы 3 прыбытку». Да нас пастаянна зьвярталіся прадпрымальнікі са скаргамі на бюракратычны ціск, таму я магу ўявіць іх даход — добра калі ён быў у паўтысячы тых даляраў за месяц. Увогуле, ці разумее Гайдукевіч, пра што сьведчаць ягоныя словы пра шапікі? Дзяржчыноўнікам было забаронена займацца камэрцыйнай дзейнасьцю.

Канешне, шапікі тут ні пры чым.

А вось удзел у «карупцыйных схемах» — рээкспарце нафты, каляровых мэталаў і г.д. — даваў сапраўды гіганцкі прыбытак. За ўсё — і асабліва за ліцэнзіі на рээкспарт — браўся хабар, і немалы.

Памятаю, неяк я прывёў да аднаго з намесьнікаў Кебіча старшыню Чыгуначнага райвыканкаму Віцебска (там была мая выбарчая акруга, а дэпутатаў ВС прапускалі без чаргі), каб «выбіць» каналізацыйныя трубы. Пытаньне вырашылася за тры хвіліны. «Ты ведаеш, колькі бізнэсоўцы плацяць за уваход у такія кабінэты? — спытаў мяне старшыня райвыканкаму. — Стаўка пачынаецца ад трох тысяч даляраў».

Гэта Васілю Быкаву Лявон Баршчэўскі завозіў мех бульбы, бо не хапала пэнсіі, гэта Зянон Пазьняк атрымліваў 20 даляраў ў сваім інстытуце гісторыі Акадэміі Навук і на сэсію ВС езьдзіў на тралейбусе, а чынавенства актыўна скалачвала падмурак цяперашніх холдынгаў і карпарацый.

Ну а тыя, хто не належаў да чынавенства, мусілі даваць хабар. Ідавалі — пачытайце прызнаньні цяперашніх «генэралаў бізнэсу», якім ў 90-х было 20-30 гадоў. Давалі хабар і тым самым, так ці інакш, умацоўвалі карупцыйную сыстэму, якая не дазволіла Беларусі стаць на дэмакратычны, эўрапейскі шлях. І якая, зь невялікімі пэрсанальнымі пэратурбацыямі, у 1994 перайшла пад Лукашэнку. І калі на першых (і адзіных сапраўдных) прэзыдэнцкіх выбарах 94 году Масква бачыла ў Лукашэнку праваднік сваіх інтарэсаў (больш энэргічнага, чым Кебіч), дык намэнклятура імгненна разгледзела ў ім абаронцу сваіх капіталаў (ну, зь невялікім пераразьмеркаваньнем з улікам прыходу новых людзей). Не памыліліся ні першыя, ні другія. Цяпер Маскве можна не турбавацца адносна разьмяшчэньня чарговай ваеннай базы. І калі пры Кебічу вяршыняй мары чыноўніка лічыўся асабняк за 22 тысячы даляраў, дык цяпер вымяраюць мільёнамі (а асабліва «набліжаныя» — мільярдамі).

Тут інтарэсы Масквы і праўладнага бізнэсу сышліся. Спалучаюцца яны і цяпер: гэтак званы вялікі бізнэс не толькі пралукашэнкаўскі, але і — прарасейскі.

Зрэшты, пра гэты мэханізм нацыянальнай здрады Беларускі Народны Фронт казаў і тады.

«Дамінуючым стаў працэс пераразьмеркаваньня дзяржаўнай уласнасьці і фінансаў у прыватную ўласнасьць намэнклятуры. Для гэтага адпаведным чынам напісаны законы, прыняты шэраг падзаконных актаў, якія адчынілі дарогу неправавому, але «законнаму» рабаўніцтву дзяржаўнай маёмасьці, хабарніцтву і карупцыі. Усё гэта адначасна зь безагляднай палітыкай стрымліваньня і недапушчэньня рынкавых рэформаў... прывяло да стварэньня на Беларусі асноваў намэнклятурна-мафіёзнай дзяржавы з тыповай для яе канцэнтрацыяй багацьцяў у руках вузкага кола каляўладных асобаў, манапалізмам і імкненьнем да таталітарных формаў дзяржаўнага кіраваньня, што выявілася ў плянах стварэньня «прэзыдэнцкай дыктатуры».

Гэта цытата з прамовы старшыні БНФ Зянона Пазьняка на ІІІ Усебеларускай палітычнай канфэрэнцыі. 6 ліпеня, той самы 1993 год.

**Сяргей Навумчык**

ГЕОСТРАТЕГИЯ РОССИИ

# БУДЕТ ЛИ УКРАИНСКАЯ КАША В БЕЛАРУСИ?

**Оккупирует ли Россия Беларусь в ближайшие месяцы? На фоне скучного предвыборного сюжета (называть других кандидатов конкурентами Александра Лукашенко язык не повернется) эта алармистская тема выглядит для СМИ находкой.**

Заявления национальной оппозиции об агрессивности соседней империи, только и мечтающей поглотить Беларусь, многими воспринимаются уже как ритуальные заклинания. Из них сенсацию не сварганишь.

Но на сей раз благодатную для политических спекуляций тему вторжения с востока актуализировал доклад «Новая геостратегия России: последствия и вызовы для архитектуры международной безопасности», подготовленный Юрием Цариком и Арсением Сивицким из минского Центра стратегических и внешнеполитических исследований. Эта структура в экспертном сообществе имеет репутацию близкой к властям.

Не поддержать Лукашенко — приедет на танке Путин?

Фишка доклада — тезис о высокой вероятности «военно-политической дестабилизации Республики Беларусь в течение ближайших трех-шести месяцев».

Тупиковая ситуация в Украине, при том что Минск намерен твердо придерживаться нейтральной и миротворческой позиции в этом конфликте, нормализовать отношения с ЕС и США, а также ряд других факторов подталкивают Москву, как считают авторы доклада, «к повторению украинского сценария» в нашей стране.

Толчком для ввода войск, согласно этой версии, может стать отказ белорусского руководства разместить здесь российскую авиабазу.

В ряде интервью эти же политологи поясняют, какой именно сценарий может применить Москва, учитывая проведение в Беларуси президентских выборов. Мол, сначала здесь замутят некое подобие майдана, причем якобы инспирированного Западом, а потом, когда возникнет конституционный кризис, просто введут свои войска — надо же спасать братскую республику.

Пикантность трактовки в том, что и большая часть белорусской оппозиции, в частности сторонники бойкота выборов, проведения уличных акций, предстают в этой обрисовке вольными или невольными пособниками Кремля.

Главный же месседж доклада адресован, пожалуй, Евросоюзу и США. Подтекст читается так: лучше уж поддержать Лукашенко, иначе здесь будет Путин.

**Оккупация маловероятна, деградация уже идет**

Что и говорить, Крымом да Донбассом Россия заработала репутацию безбашенного, отвязанного мирового игрока. Это вдобавок к не самому лестному бэкграунду СССР и Российской империи.

И все же наложить украинский сценарий на Беларусь для российских стратегов (предположим, они это прокручивают) проблематично по ряду причин.

Во-первых, да, по горло хватает и Украины. Владимир Путин хоть и любит выглядеть «ненаклоняемым», как и Лукашенко, но тягаться с мощью западного мира, обложившего санкциями, нереально. Надо аккуратно сдавать назад.

Во-вторых, демонизировать белорусов в массовом сознании россиян так же, как это сделали с образом украинцев, будет, пожалуй, гораздо сложнее.

В-третьих, осмелюсь предположить, что Лукашенко при всем его норове по большому счету устраивает Кремль. При всех капризах он для московской верхушки — свой, в том числе и ментально, по духу.

Любая же марионетка, которую Кремль захотел бы здесь поставить, может в некий момент выйти из-под контроля. Да и попробуй еще поставь. Лукашенко держит страну под колпаком. Все просвечивается жестким рентгеном. Смешно думать, что спецслужбы проморгали бы подготовку неких сотен боевиков для местного майдана, о чем пишут иные российские ресурсы.

Да, белорусскую ситуацию можно пустить вразнос, если приложиться со всей дури. Но тогда процесс способен выйти также из-под контроля тех, кто этот большой бемц затеял. Не факт, что в итоге Москва получит лояльный ей режим.

Нет, ну зачем головная боль на ровном (или почти ровном) месте? Руководство нынешнего белорусского режима хотя и лавирует, пытается расширить свободу геополитического маневра, но к геополитической измене не способно в принципе по целому ряду причин, которым можно посвятить отдельную статью.

Да, в перспективе при стечении целого ряда неблагоприятных для Беларуси обстоятельств аншлюс не исключен. Но куда более реальной является перспектива многолетней деградации нашей страны в тени слабеющей постимперии. Эта деградация уже идет.

**Так кто пустил сюда «русский мир»?**

Возвращаясь же к докладу Царика и Сивицкого, стоит выделить такой тезис: «Важным аргументом в пользу организации смены режима в Беларуси для российского руководства является то огромное влияние, которое Россия имеет на специальные службы, государственный аппарат, директорат государственных предприятий, информационное пространство и экономику Беларуси».

В этом плане белорусский официальный лидер, при всей своей жесткой авторитарности, действительно очень уязвим. Его многолетняя ориентация на Москву, желание угодить Кремлю для получения субсидий привели к дальнейшей (начало положили царизм и большевизм) русификации всех сфер жизни, торможению национального самосознания белорусов.

Фактически сам Лукашенко «диким креном» (его собственное признание) своей политики на восток создал в Беларуси тепличные условия для тихой экспансии «русского мира».

И как бы ни холодили теперь спину высшего белорусского начальства угрозы со стороны Кремля, попробуй разорви его тщательно сплетенную паутину.

Чтобы обеспечить реальные гарантии независимости Беларуси, здесь нужно менять всю систему. Но кто на это способен?

*(скарочана)*

**Александр Класковский**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 29.09.2015 у 16.45**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.